



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

1 мая 2015 года №18 **(1044)**




# *Са святам працы!*

## Рэстаўратар: **"Такія машыны рамантуюць ломам і моцным словам"**




Фота Настассі РОЎДЫ.

ВІЛЕЙКА

**Вяселле Анатоля Курдэкі і Паліны Губарэвіч зладзілі ў пятніцу, 24 красавіка. У гэты дзень па Вілейцы ездзіў вясельны картэж, які складаўся цалкам з рэтра-аўтамабіляў ГАЗ-21 "Волга".** Заканчэнне тэмы чытайце на 5-й старонцы.

ІНІЦЫЯТЫВА

# Курсы “Мова нанова” робяць мову моднай

МАЛАДЗЕЧНА

**Першыя модныя моўныя курсы ў Маладзечне збіраюць цягам года тых, хто любіць беларушчыну.**

Пра тое, як год таму трэсліся калені, а сёння ўжо нічога не страшна, распавядаюць вядучыя “Мовы нанова” ў Маладзечне **Наталля Тур** і **Настасся Роўда**.

**Настасся:** Адзін раз прыходзіць 50 чалавек, іншы раз 20, але ўвесь час далучаюцца і новыя людзі. Значыць, курсы сталі патрэбнымі, пра іх расказваюць.

**Наталля:** Для мяне год прынёс хутчэй не абстрактных наведнікаў, а суполку беларускасці, з удзельнікамі якой мы знаёмыя асабіста. Мы з імі спісваемся, размаўляем.

**Настасся:** І больш за тое, потым мы сустракаемся ў Вязынцы, на розных імпрэзах, грамадскіх падзеях. Бачым на фотках з розных падзей. Гэта людзі, неабыякавыя да жыцця, у іх ёсць патрэба жыць актыўна.

**Зоя:** Гаворачы пра беларускамоўную суполку ў горадзе, то вы сталі яе тварам. Адчуваеце адпаведныя абавязкі?

**Настасся:** Я заўсёды выбіраю, што дзе гавару і пішу, а пра што маўчу. Адчуваю адказнасць, бо гэта можа быць для кагосьці важным.

**Наталля:** Я не думала так. Працягваю рабіць, што лічу правільным. Мяне гэта ніяк не звязвае.

**Курсы “Мова Нанова” праходзяць штоаўторак у бібліятэцы сямейнага чытання “Верасок” па Вялікім Гасцінцы. Пачатак а 18-й гадзіне. У Астраўцы – па серадах а 18-й гадзіне ў гімназіі №1. Уваход вольны.**

**Зоя:** Ці маглі б вы дасягнуць папулярнасці курсаў, каб зацыкліваліся на адной толькі мове?

**Настасся:** Для мяне важна, што, паводле водгукаў, гэта адзіная грамадская пляцоўка беларушчыны ў Маладзечне. І ў наведнікаў ёсць жаданне чуць мову. Але мы не можам абмяжоўвацца толькі мовай. Гэта папросту стала б нецікава. Ведай сваю культуру, гісторыю і цікаўся тым, што адбываецца навокал – мы болей хочам даць. Аб'яўляем пра розныя імпрэзы, канцэрты, каб студэнты шукалі беларускасць за межамі курсаў.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Вядучыя курсаў “Мова Нанова” ў Маладзечне карэспандэнткі “РГ” Настасся Роўда і Наталля Тур.

**Наталля:** Мова – не самамэта, гэта сродак. Мы ствараем пляцоўку. Многія толькі на нашых курсах пазнаёміліся з такімі асобамі, ад якіх захоплівае дух. Напрыклад, з бардам **Віктарам Шалкевічам**. Мы гаворым на розныя тэмы: інваліднасць, святы, зоркі.

**Настасся:** Запрашаем беларускамоўных дактароў, барменаў. У гэтым і сэнс – паказаць, як даць месца мове ў самых-самых розных праявах жыцця. Тут вельмі розныя людзі, аб'яднаныя толькі тым, што ім падабаецца размаўляць на беларускай мове. Яны знаходзяць суразмоўцаў, з якімі не будзе няёмкай сітуацыі, а на якой яна нам мове загаварыць. Курсы не так проста называюцца сучаснымі і моднымі.

**Мы сваім прыкладам, прыкладам паспяховых прыгожых і адукаваных людзей паказваем, што мова – гэта крута! І мы робім праз курсы мову трэндам. А да трэнду ўсе хочуць далучацца.**

**Наталля:** Для нас важны прыклад **Глеба Лабадзенкі**, стваральніка курсаў. У сённяшняй Беларусі мову зрабіў модным ён. І для нас вельмі спрасціў шлях – падказаў памылкі ў стасунках, у планаванні заняткаў, падачы. Таму што мае багаты досвед як вядучы мінскіх курсаў.

**Настасся:** Калі ёсць такі прыклад, то мусіш трымацца ўзроўню.

**Першыя заняткі “Мовы нанова” адбыліся летась 7 мая. Свята ў гонар юбілею зладзяць на занятках 5 мая.**

**Зоя:** Ці верылі вы ў поспех год таму? Прыгадайце, як пачыналі.

**Настасся:** Калені трэсліся (смяецца)! Было незразумела, ці трэба гэта камусьці. Мы мянялі месцы, столькі перашкод было, што, азіраючыся, бачым, нібыта прайшлі агонь і ваду. Настолькі шмат усяго было, што здаецца – ну што можа быць горш за тое, што ўжо было. Калі за дзве гадзіны тае адмаўляюць усе госці, якіх ты праанансаваў, а ты стаіш і апраўдваешся.

**Наталля:** Неяк тры тыдні да нас увогуле ніхто не ехаў.

**Настасся:** Здаецца, як мы гэта перажылі? Але што мяне, што Наташу гэта навучыла стасункам з людзьмі і разуменню, як з кім працаваць.

**Наталля:** І па гэтых арганізацыйных пытаннях зусім па-іншаму даведваешся пра нашых вядомых людзей. Ёсць тыя, ад якіх мы проста ў захапленні, а паводзіны некаторых... Ну, больш мы з адной спявачкай працаваць не хацелі б.

**Зоя:** Наташа, табе досвед працы ў школе дапамагаў ці замінаў?

**Наталля:** Спачатку пару разоў прыкрыквала. А як інакш, калі стаіш, распінаешся, а яны сваімі справамі займаюцца.

**Зоя:** А ў цябе, Настасся, ці была няёмкасць, што вучыш людзей нават вельмі паважнага ўзросту?

**Настасся:** Я ўжо прайшла гэты бар'ер, працуючы журналістам. Я разумею, што не тое, каб вучу, а прапаную інфармацыю, якую маглі б знайсці яны, але падрыхтавала я.

**Зоя:** Чаго новага чакаць ад маладзечанскай “Мовы нанова”?

**Наталля:** Магчыма, у перспектыве з'явіцца “Мова нанова дзеткам”. Мяркую, гэта нават больш запатрабавана, улічваючы, што беларускамоўных садкоў і школ адзінкі.

**Настасся:** Магчыма, з цягам часу далучацца іншыя вядучыя. Мы і цяпер толькі рады, калі хтосьці гатовы далучыцца. Прыйдуць новыя людзі, якія будуць расці з намі і вучыць нас. Хочам, каб больш прыходзілі са школ. Я ўвогуле вельмі хачу, каб людзі былі больш актыўнымі і часцей ўставалі з канапы! І прыходзілі ў нашу цудоўную кампанію “Мовы нанова”!

## Што гавораць пра “Мову нанова” ў Маладзечне

**Глеб Лабадзенка**, адзін са стваральнікаў “Мова нанова”, вядучы курсаў у Мінску:

– Маладзечанскія курсы вядуць прыгожыя дзяўчаты, сапраўдныя зоркі “Рэгіянальнай газеты”. Умеюць дамовіцца і з гасцямі, і з музыкантамі. Прыемна, што курсы адбываюцца не абы-дзе, а ва ўтульнай бібліятэцы “Верасок”, якая месціцца вельмі зручна для гараджан. Мару, каб на маладзечанскія курсы прыходзіла 100 і болей чалавек – яны гэтага вартыя!

**Вольга Мацюшонак**, студэнтка курсаў:

– На курсы “Мова нанова” запрасіла сяброўка. І мне адразу вельмі спадабалася сяброўская атмасфера курсаў. Усё адбываецца ў лёгкай, гульнявой форме. Прыема правесці час з цікавымі людзьмі, паразмаўляць ды яшчэ і набыць новыя веды.


Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

ЮБІЛЕІ

# “РГ” зладзіла вечарыну ў гонар 20-годдзя

ВІЛЕЙКА

**Пастаянныя чытачы, героі і аўтары публікацый, музыкі, гісторыкі і краязнаўцы сабраліся ў выставачнай зале імя Сілівановіча ў суботу, 25 красавіка.**

Яны ўзгадвалі самыя яскравыя публікацыі, самыя запамінальныя моманты, звязаныя з газетай і рэдакцыяй.

Начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Вілейскага РАУС сябар “Рэгіянальнай газеты” **Андрэй Дударчык** прызнаўся, што любіць “РГ” і за ляпы. Некалі даўно газета напісала, што ён стаў “гнаць самагонку і прадаваць”. Такая камічная недарэчнасць атрымалася з-за таго, што два анонсы зліліся ў адзін. Кропка, якая іх падзяляла, амаль не была заўважная. І “Міліцыянер, які спявае”, так называўся артыкул пра Андрэя Мікалаевіча, зліўся з навіной “Гоніць самагонку і прадае”.

На шчасце, пачуццё гумару Андрэя Дударчыка не дазволіла яму пакрыўдзіцца. На вечарыну ён прынёс каўпак і папяровую свістульку, што звычайна дораць на дзень народзінаў, і снарадзіў імі рэдактара **Аляксандра Манцэвіча**.

На вечарыну завіталі ўдзельнікі асацыяцыі выдаўцоў рэгіянальнай прэсы “Аб'яднаныя Мас-медыі” **Пётр Гузаеўскі**, які праспяваў песню, **Ганна Ягорава**, што прачытала напісаны спецыяльна для “РГ” верш, **Андрэй Вышынскі**.

Беларуская асацыяцыя журналістаў у асобах **Аліны Суравец** і **Міхася Янчука** таксама згадвалі добрым словам газету.

Выступаў на сустрэчы дырэктар вілейскага каледжа **Ігар Кіцікаў**, маладзечанскі бібліяфіл і краязнаўца **Міхась Казлоўскі**, супрацоўнік Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі і аўтар “РГ” **Міхась Міхалевіч**.

Гаварылі былы рэдактар “Маладзечанскай газеты” **Аляксандр Хазянін**, супрацоўнік “МГ” **Алег Бяганскі**.

“Ганаровую падзяку”, зробленую ўласнымі рукамі, падарыў **Анатоль Капцюг**, вядомы чытачам газеты як кіраўнік праекта “Школка Дзядзькі Капцюга”.

Узяў слова кіраўнік вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў **Дзяніс Канецкі**, кіраўнік вілейскага вакальна-інструментальнага ансамбля аўтарскай песні “Элегія” **Таццяна Захарыч**, пастаянныя чытачы і аўтары публікацый **Алесь Раткевіч** і **Леў Чырвонцаў**.

**Асабліва мы ўдзячныя работнікам Вілейскага краязнаўчага музея, які дапамагаў нам арганізаваць вечарыну. Паважаныя Вольга Коласава, Надзея Аўдзей і, безумоўна, Сяргей Ганчар, дзякуй вам!**

А таксама нашым цудоўным выступоўцам **Сяргею Яруку**, **Віталіку Рогачу** і **Алесю Наркевічу**.

**Настасся РОЎДА.**

**Галоўны рэдактар “РГ” Аляксандр Манцэвіч ад імя калектыву выдання дзякуе ўсім, хто павіншаваў газету з юбілеем.**

НАВІНЫ

## У большай частцы Вілейкі ад 12 мая адключаць гарачую ваду

ВІЛЕЙКА

Ад 12 да 24 мая ў большай частцы Вілейкі не будзе гарачай вады. Гэта тычыцца той часткі горада, якая атрымлівае цяпло ад міні-ЦЭЦ.

Гарачае водазабеспячэнне будзе адсутнічаць у сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем гідраўлічных выпрабаванняў цеплавых сетак, паведаміў галоўны інжынер Вілейскай ЖКГ **Валянцін Сусла**.

Графік адключэння ўзгоднены з Маладзечанскімі электрасеткамі і зацверджаны Вілейскім райвыканкамам.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пенсіянеры атрымаюць скідку 50% на праезд у электрычцы

Яна будзе дзейнічаць ад 1 мая да 30 верасня ў цягніках рэгіянальных ліній эканом-класа.

Каб набыць ільготны праязны дакумент, пасажырам трэба прад'явіць арыгіналы пенсійных пасведчанняў.

Ільгота не распаўсюджваецца на праезд у электрацягніках рэгіянальных ліній бізнес-класа (з нумараванымі месцамі) і на цягнікі гарадскіх ліній.

**Паводле прэс-службы Беларускай чыгункі.**

ЭКАНОМІКА

# Купіць тут ці заказаць з Кітая

## Ці спыняць гандаль кітайскімі таварамі праз інтэрнэт?

**За апошнія тры гады колькасць міжнародных паштовых адпраўленняў, што апрацоўвае "Белпошта", узрасла амаль у сем разоў. Такі рэзкі рост дасягнуты за кошт анлайн-пакупак за мяжой. І найперш – з Кітая.**



Фота womanss.ru.

Ці доўга яшчэ засталося рабіць пакупкі ў Кітаі, не адрываючыся ад ноўтбука?

На мінулым тыдні выданне ej.by напісала, што Мінсувязі і інфарматызацыі, Міністэрства па падатках і зборах, а таксама Мытны камітэт абмяркоўваюць, як спыніць паток тавараў з кітайскіх інтэрнэт-крам у Беларусь.

На "круглым стале" ў межах выставы на міжнародным выставачным форуме ТІВО першы намеснік міністра сувязі і інфарматызацыі **Дзмітры Шадко** растлумачыў, што пакуль ва ўрада ніякіх канкрэтных планаў у гэтых адносінах няма. Проста яны з калегамі з падатковай і мытні вядуць абмеркаванне, як вырашыць гэту праблему.

### У перавагах – цэны і выбар, у недахопах – тэрміны дастаўкі ды якасць

– Спыняць продаж кітайскіх тавараў праз інтэрнэт – гэта глупства, – лічыць маладзечанец **Аляксандр**. – Тое, што я купляю, у Беларусі не вырабляюць. Прыкладам, купляў ліхтарыкі – на той час у нас такіх нават не прадавалі. Таксама набываў рэчы да фотакамеры і іншыя дробязі. Шмат чаго патрэбнага купляецца за мяжой. Выключэнне – ежа, адзенне (без прымеркі цяжка выбраць) і калі што трэба тэрмінова.

А калі можна пачакаць – Аляксандр купляе у Кітаі:

**– Нават калі там і ненашмат танней, бывае прасцей схадзіць на пошту, чым ехаць у Мінск, бо ў Маладзечне таксама не ўсё можна набыць. А дзе далей ад сталіцы, з гэтым, мабыць, яшчэ горш.**

Купляць кітайскія тавары наўпрост з Паднябеснай і ў два разы танней бывае, прыкінуў суразмоўца. Недахопы бачыць такія:

– Вялікія тэрміны дастаўкі (месяц, а то і два). І тое, што пакупку ты бачыш толькі на фота. Нельга патрымаць у руках ці прымераць, калі купляеш адзежу.

**Алег Янцэвіч** з Маладзечна купляе па інтэрнэце з Кітая розныя дробязі для турызму і падарожжаў. Яго бацька заказвае розныя рэчы для рыбалкі. Сябры заказваюць запчасткі для тэлефонаў, кашалькі, гадзіннікі, 3D-акуляры.

Кажа, што большасць людзей, якія займаюцца рамонтам смартфонаў, ноўтбукаў і планшэтаў, заказваюць дэталі з Кітая.

– Многія рэчы нашмат танней там купляць, чым у нас. У нас часцей за ўсё прадаюцца тыя ж кітайскія рэчы, але пры гэтым у разы даражэй.

Да недахопаў пакупак у Кітаі адносіць тое, што калі рэчы танныя, то даволі нізкай якасці, і дастаўка марудная. Аднак вельмі вялікі выбар, можна адшукаць тое, што цяжка знайсці ў нас.

– Дзе і што купляць – гэта мая асабістая справа, – разважае Алег Янцэвіч. – Спроба абмежаваць ці забараніць пакупкі праз інтэрнэт з Кітая ды іншых краін – прамое парушэнне маіх правоў і абмежаванне свабоды выбару.

### Канкурэнцыя зніжае цэны

Пра тое, што плануецца ўпарадкаваць пакупкі беларусаў у замежных інтэрнэт-крамах, яшчэ месяц таму заяўлялі ў Міністэрстве гандлю. Выказвалі занепакоенасць, што замежныя крамы забіраюць частку абароту ў айчынных вытворцаў.

– У мяне ёсць знаёмыя, якія спрабавалі займацца продажам адзення з Кітая ў Маладзечне. Не ведаю ўсіх дэталяў, але бізнес не пайшоў. Хоць і зразумела – навошта купляць рэчы з нацэнкай тут, калі можна заказаць самому, – кажа Алег Янцэвіч. – Лічу, што наўрад ці дробныя прадпрымальнікі, якія заказваюць праз інтэрнэт тавары, могуць скласці камусьці канкурэнцыю. Хіба што такім жа, як і яны, дробным прадпрымальнікам. Ды і гэта здаровая канкурэнцыя, якая акажа толькі пазітыўны ўплыў на бізнес.

А спажыўцам канкурэнцыя толькі ў радасць: чакай зніжэння цэнаў.

### Параўнаем цэны

Пачнём з драбязы: возьмем самы просценькі mp3-плэер. У Маладзечне ў шапіку ля чыгуначнага вакзала ён каштуе 69 тысяч рублёў. У кітайскай краме падобны з дастаўкай – каля 20 тысяч.

Пяройдзем да больш сур'ёзных пакупак. Мінулі тыя часы, калі кітайскія вытворцы "славіліся" толькі падробкамі пад вядомыя маркі тэлефонаў. У 2014 годзе ў шасцёрцы найбуйнейшых вытворцаў смартфонаў – тры кітайскія кампаніі.

Выбіраем для параўнання мадэль, якая прадаецца і ў нас. Цана на смартфон Lenovo S850 у беларускіх інтэрнэт-крамах пачынаецца ад трох мільёнаў 150 тысяч рублёў. У буйной гандлёвай сетцы такі тэлефон прапануюць амаль за тры мільёны семсот тысяч. У адной з кітайскіх інтэрнэт-крамаў у пераводзе на рублі ён каштуе каля двух мільёнаў. Пашукаўшы, яшчэ трохі танней можна знайсці.

Кожны можа выбраць, ці купляць тут (аператыўна і з гарантыяй на месцы), ці зэканоміць і пачакаць.

**Даведка "РГ".** Аб'ём рынку інтэрнэт-гандлю ў Беларусі ў 2014 годзе ацэньваўся ў 450 мільёнаў долараў. На пакупкі за мяжой прыходзіцца каля 28% усіх выдаткаў карыстальнікаў. Асноўным замежным пастаўшчыком тавараў для беларускіх спажыўцоў з'яўляецца Кітай. Адтуль купляюць трэць усіх інтэрнэт-пакупнікоў.
Паводле даследавання агенцтва дадзеных Insight і TUT.by.



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by

ЛІЧБА НУМАРА

**200** еўра ў месяц

На такую суму грамадзянін Беларусі мае права атрымаць тавараў у пасылках з-за мяжы без выплаты мытнай пошліны

Паводле Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі

Інфаграфіка Алеся ВЫСОЦКАГА

| Курсы валют НБ РБ | 23.04 руб. | 30.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 14 580,00 | **14 470,00** |
| Еўра | 15 680,00 | **15 910,00** |
| Злоты | 3 837,53 | **3 960,83** |
| Расійскі рубель | 280,50 | **280,50** |
| Грыўня | 682,10 | **656,23** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 29.04** | | |
| Еўра | 15300/15700 | **15550/15860** |
| Долар ЗША | 14200/14580 | **14250/14570** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.04 | 29.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 75000 | **85000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39900 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **42800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115000 | **135000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12900** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4800** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7900 | **8900** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 16900 | **18500** |
| Морква, 1 кг | 17500 | **17900** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Радыска, 1 кг | 29500 | **22500** |
| Лімоны, 1 кг | 27900 | **19900** |
| Апельсіны, 1 кг | 21900 | **19900** |
| Мандарыны, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Грэйпфрут, 1 кг | - | **19900** |
| Ківі, 1 кг | 26500 | **24500** |
| Памідоры, 1 кг | 34900 | **33900** |
| Агуркі, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Перац, 1 кг | 55900 | **54900** |
| Вінаград, 1 кг | 41900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 19900 | **19900** |
| Яблыкі, 1 кг | 12900 | **13300** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 26900 | **24800** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 80000 | **80000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |


Фота Наталі ТУР.

Аварыя ля магазіна "Рублёўскі"адбылася раніцай 28 красавіка. Ад удару адну з машын развярнула на дарозе некалькі разоў. На шчасце, у аварыі ніхто не пацярпеў.

● ЗДАРЭННІ

# Аварыя на Вялікім Гасцінцы

## Відавочца: "Так грукнула, што ў мяне аж ногі падкасіліся"

МАЛАДЗЕЧНА

**28 красавіка, прыкладна каля 9 раніцы, на Вялікім Гасцінцы сутыкнуліся дзве легкавыя машыны.**

Па словах відавочцаў, чорны "Сеат" рухаўся ў напрамку Цэнтральнай плошчы і каля магазіна "Рублёўскі" мусіў павярнуць налева. У гэты час кіроўца зялёнага аўтамабіля, зноў па словах відавочцаў, значна перавысіў хуткасць, рухаючыся па праспекце ў напрамку 6 мікрараёна.

– Быў такі моцны ўдар, так грукнула, што ў мяне аж ногі падкасіліся, – кажа відавочца аварыі дворнік **Аксана**. – Я якраз збірала смецце на тым баку. І дзве машыны, якія сутыкнуліся, ляцелі на мяне. Чорную машыну некалькі разоў аж перакруціла на дарозе. Да гэтага часу ў мяне ногі трасуцца.

Дзве машыны "хуткай дапамогі" амаль адразу прыехалі на месца здарэння. У аварыі ніхто не пацярпеў.

Каментар ДАІ чытайце ў наступным нумары.

**Наталля ТУР.**

● СЛУЖБА 101

## Гарэў тэлевізар

ВІЛЕЙКА

А палове дзясятай вечара 26 красавіка вілейскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у вёсцы Заельнікі Хаценчыцкага сельсавета.

Гаспадар дома ўключыў тэлевізар і заснуў. Тэлевізар загарэўся.

Добра, што загаранне заўважылі суседзі. Разбудзілі 48-гаспадара, дапамаглі яму выйсці, патэлефанавалі выратавальнікам.

У выніку пажару згарэў тэлевізар – выпушчаны ён быў год 16 таму. Таксама агонь пашкодзіў пакой, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч**.

## Загарэўся хлеў у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

Ля апоўначы 25 красавіка ў службу "101" патэлефанавалі, што гарыць хлеў па вуліцы Савецкай у Вілейцы.

– Па прыбыцці выратавальнікаў хлеў гарэў адкрытым полымем. Была пагроза таго, што агонь перакінецца на жылы дом. Але гэтага не дапусцілі, – распавёў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

У выніку пашкоджаная частка хлява і згарэў яго дах. Прычына пажару высвятляецца.

## Зацеплілі лазню – праз гадзіну выклікалі выратавальнікаў

ВІЛЕЙКА

Пажар у вёсцы Лугавыя Вязынскага сельсавета адбыўся 18 красавіка.

Ранкам гаспадары цеплілі лазню. А праз гадзіну давялося выклікаць выратавальнікаў: лазня загарэлася.

У выніку агонь знішчыў 10 квадратных метраў даху лазні, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях Андрэй Балаш.

Да пажару прывяло парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі пячнога ацяплення. Не абкладзеная цэглай труба прылягала да драўляных кроквам.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЗДАРЭННІ

## Павялічылася колькасць крадзяжоў у сельскай гаспадарцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 19 красавіка пройдуць мерапрыемствы, накіраваныя на паспяховае правядзенне пасяўной.**

Падчас іх будуць сачыць за захаваннем насення, мінеральных угнаенняў, ядахімікатаў, сельскагаспадарчай тэхнікі. Будуць знаходзіць і ліквідаваць прычыны, якія садзейнічаюць крадзяжам з аб'ектаў аграпрамысловых комплексаў.

Сёлета зарэгістравалі 273 злачынствы, з іх 176 крадзяжоў. На 32,3% вырасла колькасць крадзяжоў з усіх формаў уласнасці.

25 лютага невядомы з ААТ "Купала-Агра" ў аграгарадку Гранічы скраў 100 літраў паліва, два джойсцікі і блок кіравання з трактароў на агульную суму 14 мільёнаў рублёў.

### Што пагражае за крадзяжы

Маладзечанскі РАУС нагадвае, што за такія правапарушэнні пагражае адміністрацыйная і крымінальная адказнасць.

За дробны крадзеж пагражае штраф ад 10 да 30 базавых велічынь (базавая велічыня 180 тысяч рублёў) альбо адміністрацыйны арышт. Калі дробны крадзеж ўчынены на працягу года, пагражае штраф ад 30 да 50 базавых велічынь альбо адміністрацыйны арышт.

Тайны крадзеж маёмасці караецца грамадскімі работамі альбо штрафам, альбо выпраўленчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, альбо арыштам на шэсць месяцаў, альбо абмежаваннем волі на той жа тэрмін.

За паўторны крадзеж ці ўчынены групай асоб альбо з пранікненнем у жыллё караюць выпраўленчымі работамі на тэрмін да двух гадоў альбо арыштам ад трох да шасці месяцаў, альбо абмежаваннем волі да чатырох гадоў.

За крадзеж у буйным памеры пагражае пазбаўленне волі ад двух да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці альбо без.

Крадзеж, здзейснены арганізаванай групай альбо ў буйным памеры, караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад 3 да 12 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Калі вам стала вядома інфармацыя пра здзейсненае злачынства, Маладзечанскі РАУС просіць тэлефанаваць на наступныя нумары: **102, (80176) 771656, (80176) 771488, (80176) 774411.**

**Паводле начальніка аддзела Маладзечанскага РАУС Валянціна АСІПОВІЧА.**



● ВЫШУК

## Шукаюць мужчыну, які ў сакавіку скарыстаўся банкаматам

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта высвятляе асобу мужчыны, які 10 сакавіка каля паловы дзявятай скарыстаўся банкаматам "Беларусбанка", размешчаным па вуліцы Ясінскага.



Просім грамадзян, якія пазналі мужчыну і валодаюць інфармацыяй пра яго, ці яго самога, калі ён пазнае сябе на відэазапісе, звярнуцца ў Следчы камітэт – вуліца Прытыцкага, 23, кабінет 207. Альбо патэлефанаваць на нумар **(80176) 770645.**

**Паводле старшага следчага Маладзечанскага РАСК старшага капітана юстыцыі Паўла СЯДЫХ.**

● ЗДАРЭННІ

## Праз дзірку ў плоце пераходзілі праз мяжу

АШМЯНЫ

22 красавіка на памежным пункце "Будзёнаўка" памежнікі затрымалі трох грамадзян Індыі і двух грамадзян Грузіі. Яны спрабавалі незаконна перайсці мяжу.

У 600 метрах ад мяжы памежнікі затрымалі машыну "Кіа", якой кіраваў грамадзянін Беларусі. Акрамя яго ў машыне былі трое грамадзян Індыі.

Яны патлумачылі, што шукалі лепшага жыцця ў краінах Еўрапейскага саюза.

Праз некаторы час спрацаваў датчык, на месца выехалі памежнікі з сабакам. У 500 метрах ад мяжы яны ўбачылі ў плоце пралаз. Супрацоўнікі мытні пайшлі па следзе, у 10 метрах ад дзяржаўнай мяжы яны затрымалі двух грамадзян Грузіі. Пры іх былі дакументы.

Пра гэта здарэнне памежнікі паведамілі Вільнюскаму памежнаму атраду ў Літве.

Затрыманыя знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання Смаргонскай памежнай групы для высвятлення асоб і далейшага разбіральніцтва.

**Паводле памочніка начальніка Смаргонскай памежнай групы па рабоце са сродкамі масавай інфармацыі Аляксандра КОЛАБАВА.**

● МЯЖА

## З Віліі на Астравеччыне вылавілі шэсць каробак з цыгарэтамі

АШМЯНЫ

23 красавіка на памежным пункце "Кемелішкі" памежнікі атрымалі інфармацыю, што па Віліі плыве невядомы прадмет.

Яны выехалі на месца, вынялі з вады шэсць каробак з цыгарэтамі.

Цяпер ідуць пошукавыя мерапрыемствы, падчас якіх будуць шукаць асоб, датычных да пробы перамяшчэння тытунёвых вырабаў праз дзяржаўную мяжу.

Ідзе папярэдняя ацэнка цыгарэт, іх перадалі супрацоўнікам Ашмянскай мытні.

**Паводле памочніка начальніка Смаргонскай памежнай групы па рабоце са сродкамі масавай інфармацыі Аляксандра КОЛАБАВА.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Рэстаўратар: “Такія машыны рамантуюць ломам і моцным словам”

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

ВІЛЕЙКА

**На плошчу Свабоды ў Вілейцы заязджае вясельны картэж, які складаецца з пяці рэтра-машын. Усе машыны маркі ГАЗ-21 “Волга”.**

Чорная, белая, чырвоная, шэрая і бэжавая машыны гудзяць, быццам гаворачы: “Сустракайце маладых, едзе незвычайнае вяселле”.

Вяселле і праўда незвычайнае. Бярэцца шлюбам той, хто, уласна, і дае новае жыццё старым аўто – рэстаўратар з Вілейкі **Анатоль Курдэка.** Жонку Анатоля завуць **Паліна.**

Пазнаёміліся маладыя яшчэ 13 гадоў таму, на танцах у Вілейцы.

Толькі пачынаем гутарыць з жаніхом і нявестай пра гісторыю іх знаёмства, як у чорнай “Волгі” адвальваецца фара. Жаніх раскрывае багажнік, дастае інструмент і пачынае прыкручваць фару назад.

– Машыны такія тым харошыя, што рамантуюцца пры дапамозе лому, адвёрткі і мата – кажа Анатоль.

А захапіўся Анатоль рэтра-машынамі выпадкова, гадоў пяць таму.

– Да гэтага ўсё больш фанацеў ад матацыклаў, а тут купіў машыну, спадабалася.

Неўзабаве ў аўтапарку Анатоля з'явілася яшчэ адна машына.

> **– Магу сказаць, што захапленне рэтра-машынамі – не таннае, забірае як шмат грошай, так і шмат часу.**

І рэстаўрацыю скончыць нельга, таму што можна нешта дарабляць і дарабляць увесь час.

Бліскучыя машыны, якія выглядаюць як новыя, не могуць пакінуць раўнадушным аматараў даўніны.

– Да мяне звяртаюцца людзі з просьбай прадаць машыну, але я пакуль не гатовы расстацца са сваім дзецішчам. Захапленне цяпер перарасло ў крыніцу даходаў. Мой міні-аўтапарк сталі арандаваць на вяселлі, фотасесіі і іншыя ўрачыстасці.

Пабраўшыся шлюбам з найпрыгажэйшай жанчынай Вілейкі, як кажа Анатоль, у яго засталася толькі адна мара – займець у сваім аўтапарку легендарную “Чайку”.

**Наталля ТУР.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Вяселле Анатоля Курдэкі і Паліны Губарэвіч вазілі пяць рэтра-аўтамабіляў. Два з якіх – з уласнага аўтапарка жаніха.**




МАЛАДЗЕЧНА-2015

# На фестывалі зноў прагучыць песня Ігара Паліводы "Маладзечна" (праграма фестывалю)

**XV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2015" пройдзе сёлета 5, 6 і 7 чэрвеня.**

**Праграма першага дня** фестывалю распачнецца **а 12 гадзіне** канцэртам "Выбітныя творы беларускіх кампазітараў да лёсазначных падзей", які пройдзе ў канцэртнай зале Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў.

**У 15:00** творчая прэзентацыя выставы "Навечна ў памяці народнай", прысвечаная 70-годдзю Перамогі, пачнецца **ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі**.

**У 18:00 амфітэатр запрашае** на канцэрт народнай музыкі "Мелодыі роднай зямлі". У канцэрце прымуць удзел ансамблі "Бяседа", "Свята", "Неруш" і іншыя. Кошт білетаў на гэты канцэрт будзе складаць 40, 50 і 60 тысяч рублёў.

У гэты ж час, **у 18:00, у Чысцінскім сельскім Доме культуры** адбудзецца канцэрт беларускай эстраднай песні ў выкананні заслужанага калектыву **"Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі" пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.**

**Урачыстае адкрыццё фестывалю распачнецца ў 21:30.**

На гэтым часе настаялі тэлевізійшчыкі. Яны патлумачылі, што калі на вуліцы пачынае паступова цямнець, вельмі нязручна пераключаць апаратуру. І ад гэтага твары гледачоў на экране робяцца то сінімі, то жоўтымі.

Канцэрт адкрыцця пройдзе пад назвай "Беларусь незалежная ў песнях і вершах".

Адметна, што сёлета на фестывалі зноў вяртаецца песня-гімн фестывалю "Маладзечна".

Арганізатары атрымалі дазвол на гэта ў жонкі кампазітара **Ігара Паліводы.**

Нагадаем, што песня на фестывалі не гучала два гады.

Білеты на адкрыццё фестывалю будуць каштаваць 60, 70 і 80 тысяч рублёў.

**Феерверк будзе толькі ў дзень адкрыцця.**

**Праз другі дзень** фестывалю лейтматывам пройдзе конкурс маладых выканаўцаў. Другі тур конкурсу пачнецца ў 12:00 у Палацы культуры.

А ў 21:00 трэці тур конкурсу пройдзе ў амфітэатры ў суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі.

Пакуль журы будзе падводзіць вынікі конкурсу, гледачам пакажуць канцэрт "Вялікія песні вялікага народа".

Кошт білетаў – 60, 70 і 80 тысяч рублёў.

**На другі фестывальны дзень** усіх аматараў паэзіі запрашае малая зала Палаца культуры на паэтычную гасцёўню "Красуй, Беларусь" з удзелам беларускіх паэтаў.

Распачнецца паэтычная гасцёўня а 15 гадзіне.

Па заканчэнні сустрэчы з паэтамі ахвотныя змогуць перамясціцца ў канцэртную залу Палаца культуры, дзе ў 17:00 пачнецца канцэрт "Беларусь святочная".

**У трэці дзень** фестывалю ў канцэртнай зале Палаца культуры гаспадарыць будуць дзеці. Тут а 14 гадзіне пачнецца канцэрт "Маладзічок" запальвае зоркі". **У 18:00** кампазітар **Алег Молчан** запрашае **ў амфітэатр** на свой юбілейны канцэрт "Песня мая".

Білеты будуць 60, 70 і 80 тысяч рублёў.

**Заключны канцэрт у межах фестывалю будзе называцца "Зоркі "Зорнага дыліжанса". Ён пачнецца ў амфітэатры ў 21:30.**

У гэтым канцэрце возьмуць удзел **Дзмітры Калдун, Ганна Шаркунова**, IOWA і многія іншыя зоркі беларускай эстрады.

Каштаваць білеты на гэты канцэрт будуць 100, 130 і 150 тысяч рублёў.

Падчас фестывалю будуць працаваць гандлёвыя пункты, выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, гульнёва-забаўляльныя пляцоўкі для дзяцей, а таксама маладзевая пляцоўка з удзелам прадстаўнікоў розных моладзевых накірункаў.

**Наталля ТУР.**


Фота з сайта vilejka.info

**Ірыну Будзько, мядзяльчанку, распытваюць Дзяніс Канецкі і Эла Лужынская з Вілейкі. Падчас вандроўкі ў Княгінін у 2013 годзе сябры выдання "Волат" і Таварыства аховы помнікаў знайшлі невялікі кавалак шыльды з надмагільнага крыжа па паўстанцах 1863 года.**

ПАМЯЦЬ

# Крыж перажыў рэвалюцыі і войны

МЯДЗЕЛ

**Больш за стагоддзе ў вёсцы Княгінін на Мядзельшчыне стаіць крыж паўстанцам 1863 года.**

Адшукаць яго можна воддаль ад цэнтра вёскі, дзе на былым хутары стаяць два дамы. Гаспадыня аднаго з іх – **Ірына Будзько**. Ёй ужо ідзе 80-ы год. Усё жыццё жанчына пражыла побач з крыжам – у доме, які пабудаваў у 30-х гадах бацька.

Расказвае, што крыж паставілі ў пачатку 20 стагоддзя:

– Стары Андрон нарадзіўся ў 1901 годзе. Ён тады малы быў, але помніў, як крыж устанаўлівалі. Казаў, што пахаваныя ля яго тыя, хто супраць цара ваяваў. Ад расправы выратаваўся толькі адзін з іх, які залез у ваду і праз трыснёг дыхаў. Напачатку тут быў драўляны крыж. Потым упраўляючы маёнтка **Франц Лукацэвіч** прывёз з Вільні і ўстанавіў чыгунны крыж.

## Выратаваўся толькі адзін паўстанец

Падобныя дадзеныя з невялікімі адрозненнямі і дапаўненнямі можна адшукаць ва ўспамінах **Сяргея Дземідовіча** з Княгініна. Запісаў іх больш за дзесяць год таму краязнаўца **Вадзім Праўрацкі**.

"Яшчэ пры цары на месцы сучаснай вёскі Княгінін быў невялікі маёнтак Княгінін, а на адным з цяперашніх хутароў была вёска Будкі і маёнтак Стара-Княгінін.

Падчас паўстання 1863 года шмат жыхароў з Княгініна і навакольных вёсак падалося да паўстанцаў. Але царскі прыслужнік Мураўёў усіх іх разграміў. Групу палонных паўстанцаў прывялі ў маёнтак Стара-Княгінін і загналі ў вазоўню (хлеўчык, дзе стаялі вазы і сані). Царскія афіцэры тым часам дазволілі сваім салдатам адсвяткаваць перамогу.

Сярод паўстанцаў быў адзін з прыслугі, праваслаўны. Яго казакі проста адлупілі і адпусцілі. Улучыў момант, калі ўсе салдаты панапіваліся, падышоў да вазоўні і сказаў: "Я вам нічым не дапамагу, толькі ўсе п'яныя, і калі жадаеце, можаце паспрабаваць уцячы". Палонныя паўстанцы знайшлі ў санях бервяно, выбілі на два вянцы ў сцяне праём і кінуліся наўцёкі. Але іх усіх палавілі і павесілі.

Адзін толькі выратаваўся, які ў стаў з вадой схаваўся. Паўстанец з трыснягу зрабіў трасціну, праз якую дыхаў. Так і ўратаваўся.

Давялося праседзець у вадзе колькі часу, а потым дабраўся да суседняй вёскі Выгалавічы. У Выгалавічах паўстанец ляжаў з гарачкай. А хавалі, пэўна, у **Гламбоцкага**. Пра гэта можна меркаваць па такім выпадку. У 1920 годзе прыйшлі палякі Гламбоцкага ў войска браць. А ён шапку-канфедэратку надзеў і шаблю паўстанцкую дастаў, дык польскія афіцэры на калені яму шаблю цалавалі.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Крыж на магіле паўстанцаў 1863 года знаходзіцца воддаль ад цэнтра Княгініна.**

Дырэктарам Княгінінскай школы пры палякаў быў пан **Язёрак**. Дык ён на ўроках расказваў, што ў Варшаве бачыў і сустракаўся з гэтым адзіным сведкам тых падзей...

Пахавалі паўстанцаў у агульнай магіле, што знаходзілася на ўскрайку могільніка вёскі Будкі. Могільнік з цягам часу пазарастаў, а зараз там поле ўзаранае. Няма і вёскі той, і маёнтка Стара-Княгінін таксама няма. Толькі на брацкай магіле стаіць жалезны крыж, а побач праходзіць дарога. Па расказах старажылаў, крыж заказалі ў Пецярбургу кіраўнікі паўстанцаў, якія ўцяклі за мяжу. Крыж быў прывезены і схаваны, бо панскі ўпраўляючы пабаяўся яго ўсталяваць. І толькі дзесьці на пачатку XX стагоддзя крыж паставіў сын упраўляючага па прозвішчы Лукацэвіч.

Існуе таксама іншая версія гібелі паўстанцаў. Некаторыя людзі сцвярджаюць, што паўстанцы ўцякалі па падземным ходзе і іх жыўцом завалілі камянямі, а зверху засыпалі зямлёй. Аднак падобная версія выглядае цалкам ненатуральнай і фантастычнай".

## "Я ўсё жыццё ля яго хаджу"

Цяпер паловы шыльды з надпісам на крыжы няма.

**Ірына Будзько памятае такі надпіс: "Усім памерлым, каторыя пакояцца ў гэтай магіле. Франц Васільевіч Лукацэвіч".**

У першы раз шыльда разламалася год 20 таму, прыгадвае жанчына:

– Тут трактары з тэхнікай ездзяць – і зачапілі. Знайшоўся зваршчык, зварыў. А потым зноўку яна разламалася.

Прыгадвае, што адзін паляўнічы выпіў і ў шыльду страляў. А некалькі год таму маладзёны хацелі крыж выкапаць:

– Але ён моцна стаіць: краталі і не павярнулі. Як тое ўбачыла, праганяла іх.

Так што, бабуля Ірына – своеасаблівы ахоўнік крыжа.

– Колькі буду жыць, буду глядзець, каб не ламалі яго. Гэта ж – крыж! І я ж усё жыццё ля яго хаджу...

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Мужчына і жанчына памяняліся ролямі – разбураюцца сем'і

МАЛАДЗЕЧНА

**Сучасны чалавек жыве ў час падмены паняццяў. Пра любімага чалавека гаворым партнёр, пад каханнем часта разумеем сэкс, грамадзянскі шлюб пераўтварыўся ў сужытніцтва.**




Традыцыйная сям'я патрабуе большай адказнасці, цярпення, сур'ёзнасці. Але варта пастарацца, каб бачыць шчаслівыя ўсмешкі блізкіх.

– Цяпер каштоўнасці пераасэнсоўваюцца, – адзначае сямейны псіхолаг **Марына Валасковіч**. – Сучасны чалавек увесь час у руху, стараецца ўсё паспець. Тое ж самае тычыцца і адносінаў – многія хочуць атрымліваць задавальненне, а працаваць над адносінамі, удасканальваць іх не ў кожнага ёсць цярпенне і жаданне. Таму многія выбіраюць свабодныя адносіны. Яны не патрабуюць адказнасці, пры любой спрэчцы можна разбегчыся.

Калі маладыя ідуць на свабодныя адносіны, часта гавораць, што хочуць праверыць, ці ўжывуцца. Марына Валасковіч так каментуе падобную сітуацыю: "Любы жаночы арганізм выдатна падыходзіць да мужчынскага. Калі людзі імкнуцца стварыць сям'ю, то вызначальным становіцца ўзаемаразуменне, давер, каханне."

## Свабодныя адносіны ствараюць ілюзіі

Пры свабодных адносінах і мужчына, і жанчына маюць ілюзіі. Жанчына – што замужам, мужчына – што свабодны.

– Да мяне звярталіся жанчыны, якія мелі досвед свабодных адносінаў, – гаворыць сямейны псіхолаг. – Яны скардзіліся, што чым больш жывуць з мужчынам, тым менш закранаюць тэму вяселля. Жанчыны паступова адчуваюць сябе пакінутымі, ім не хапае пачуцця бяспекі, выказваюць прэтэнзіі да партнёра. Калі такія адносіны заканчваюцца, то атрымліваюць псіхалагічную траўму.

Марына Валасковіч заўважае, што цяпер моцна памяняліся гендэрныя ролі. Калі раней мужчына "паляваў" за жанчынай, імкнуўся атрымаць яе прыхільнасць, то цяпер у яго не выклікае вялікіх цяжкасцяў пазнаёміцца з жанчынай для палавых стасункаў. Нярэдка "палююць" жанчыны.

– Сучасная жанчына баіцца адзіноты, таму ідзе на свабодныя адносіны, саступае мужчыну, – заўважае сямейны псіхолаг. – Аднак не адчувае падтрымкі, мае пачуццё трывогі, нетрываласці адносінаў.

Сёння распаўсюджаныя і шлюбы "па залёту". Звычайна, калі бацькі маладых даведваюцца пра дзіця, раіць жаніцца. Атрымліваецца стымуляваны шлюб. Маладыя кахаюць адзін аднаго, аднак мужчына адчувае сябе загнаным у вугал, бо не ён быў ініцыятарам. Часта такія шлюбы распадаюцца.

**За апошнія дзесяць гадоў ледзьве не ў дзесяць разоў узрасла колькасць дамашніх жывёл. Так людзі імкнуцца атрымаць пачуцці, якіх яны не маюць з супрацьлеглым полам, запаўняюць месца члена сям'і, які адсутнічае.**

## Маці не заменіць сабой бацьку

Адна з праблем сучаснай сям'і, што дзіця ставяць у цэнтр сям'і. У большасці выпадкаў гэта прыводзіць да таго, што яно вырастае эгаістам.

Марына Валасковіч падчас трэнінгаў часта пытаецца, што патрэбна для шчасця дзіцяці. Звычайна адказваюць, каб яго любілі. У гэтым заключаецца стратэгічная памылка. Для дзіцяці важна, каб бацькі любілі адно аднаго. Так дзеці адчуваюць сябе шчаслівымі, вучацца паводзіць сябе ў сям'і.

Сямейны псіхолаг дзеліцца досведам: у няпоўных сем'ях, нягледзячы на тое, што мама робіць усё магчымае, каб стварыць добрыя ўмовы для дзяцей, ёй не пад сілу замяніць бацьку.

Дзеці траўмаваныя, у іх узнікаюць цяжкасці пры стварэнні ўласнай сям'і.

У практыцы псіхолага было некалькі выпадкаў, калі па дапамогу звярталіся ўжо дарослыя дзеці, маці якіх нараджалі для сябе. Яны мелі частыя дэпрэсіі, адчувалі іншыя складанасці, пакуль не правodзілі самастойныя расследаванні, каб знайсці бацьку. Як лічыць Марына Валасковіч, дзіця павінна ведаць праўду пра сваіх бацькоў, якая б яна ні была.

Калі жанчына мае ўстаноўку нараджаць для сябе, яе галоўная мэта – самасцвердзіцца. Такая ўстаноўка пярэчыць мацярынству. Калі ў мамы з падобнай установкай нараджаецца хлопчык, то жанчына стараецца сабой замяніць асабістае жыццё сына, кантраляваць яго.

На кансультацыі ў Марыны Валасковіч быў малады чалавек каля 30 гадоў, у якога не ладзіліся адносіны з жанчынамі. Як толькі ён знаёміўся з дзяўчынай, мама пачынала ўмешвацца, тэлефанавала сыну ў час спатканняў і гаварыла, што ёй дрэнна. Сын быў вымушаны вяртацца, каб быць побач з ёй.

– Жанчына адчувала страх застацца адной, бо сын эмацыйна замяніў ёй мужа, – каментуе сітуацыю псіхолаг. – Калі б ён захацеў ажаніцца, маці б проста не адпусціла яго. Я раіла маладзёну адстойваць права на ўласнае жыццё, але клапаціцца пра маці, калі гэта трэба. А маме зразумець, што сын не можа знаходзіцца каля яе заўсёды, дапамагаць іншым людзям.

## Традыцыйную сям'ю разбуралі паступова

Разбурэнне традыцыйнай сям'і пачалося ў першыя гады савецкай улады.

– Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі людзям далі магчымасць разводзіцца, – заўважае Марына Валасковіч. – Былі спробы стварыць сем'і-камуны, дзе агульнымі былі жонкі, мужы, дзеці. На шчасце, людзі вярнуліся да традыцыйнай сям'і.

Савецкая ўлада часткова ўзяла на сябе функцыі бацькі: дзяцей выхоўвалі ў дзіцячых садках, кватэры давалі па чарзе, нават на працу ўладкоўвала дзяржава. Мужчынскі патэнцыял быў незапатрабаваны, з яго зрабілі грамадзяніна. Жанчына патрабавала большага. Традыцыйны сямейны ўклад пачаў разбурацца. Гэта паўплывала на адносіны паміж мужчынам і жанчынай, на выхаванне дзяцей.

**Галіна СІНІЦА.**

**Даведка "РГ".** Марына Валасковіч – сямейны псіхолаг, выкладчык псіхалогіі музычнага каледжа ў Маладзечне, кіраўнік моладзевага клуба стасункаў і творчасці "Дыялог+", арганізатар фестывалю творчых ініцыятыў "Час жыць!"

АДПАЧЫНАК

# Вандруйце з інтэрактыўнымі картамі

МЯДЗЕЛ

**Новыя інтэрактыўныя карты дапамогуць зрабіць вандроўкі па Нарачанскім краі больш цікавымі і камфортнымі.**

З'явілася "Карта пад'ездаў да турыстычных стаянак і аглядных пунктаў".

– Яна будзе карысная і тым, хто толькі збіраецца адпачыць у Нацыянальным парку, і тым, хто ўжо едзе сюды. Першыя могуць з яе дапамогай спланаваць свой адпачынак. Паглядзець на фотаздымках, як выглядае турстаянка, які краявід адкрываецца з аглядных пунктаў. А хто ўжо ў дарозе, можа адкрыць карту на экране смартфона і дакладна арыентавацца на мясцовасці, лёгка дабрацца да намечаных аб'ектаў, – кажа намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валеры Люштык**.

Таксама з'явілася "Карта размяшчэння ўчасткаў запаведных зон". З яе дапамогай можна даведацца межы ўчасткаў запаведных зон, дзе знаходжанне турыстаў забароненае.

Карта "Дэндралагічны сад" дапаможа здзейсніць віртуальную экскурсію па садзе. У "Карце для дапытлівых-2015" змяшчаюць здымкі і інфармацыю пра неардынарныя з'явы і падзеі – сучасныя і гістарычныя.

Раней "РГ" пісала, што з'явілася інтэрактыўная карта з аб'ектамі Першай сусветнай вайны. Знайсці ўсе карты можна на сайце narochpark.by ў адпаведным раздзеле.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГРАМАДСТВА

# Кожны трэці чацвер на Вілейшчыне будзе Днём цвярозасці

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскім раёне сёлета продаж алкагольных напояў абмяжуюць кожны трэці чацвер месяца.**

Бліжэйшы з іх прыпадзе на 21 мая. Далей – 18 чэрвеня, 16 ліпеня, 20 жніўня, 17 верасня, 15 кастрычніка, 19 лістапада і 17 снежня, паведаміла галоўны спецыяліст сектара гандлю і паслуг аддзела эканомікі райвыканкама **Наталля Драгун**. Выключэнне зробленае толькі для гандлю на разліў на аб'ектах грамадскага харчавання.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КУЛЬТУРА

# Трое віляйчан з траіх – у пераможцах

ВІЛЕЙКА

**Такія вынікі прынёс 16 адкрыты абласны дзіцячы конкурс маладых выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах памяці заслужанага работніка культуры Беларусі Івана Янкоўскага "Залатая труба".**

Праходзіў ён у Стоўбцах 17 красавіка.

Было каля двухсот удзельнікаў. Гэта навучэнцы 55 школ мастацтваў з Беларусі і Расіі.

У конкурсе ўдзельнічалі тры прадстаўнікі Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў. І ўсе тры перамаглі, расказала дырэктар установы **Наталля Сліжова**.

У намінацыі "Ударныя інструменты" першае месца заняў **Канстанцін Мячкоўскі**. У намінацыі "Медныя духавыя інструменты" перамагла **Паліна Дарошына**, а ў намінацыі "Драўляныя духавыя інструменты" першае месца заваявала **Аляксандра Капцюг**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Наталлі ТУР.

Карта аднадзённага маршруту па даўгінаўскіх ваколіцах. Працягласць – 65 кіламетраў.

У ДАРОЗЕ

# Маршрут "Па даўгінаўскіх ваколіцах"

ВІЛЕЙКА

**У вас ёсць ровар альбо машына, альбо вы жадаеце падарожнічаць, тады рубрыка "у Дарозе" спецыяльна для вас. Прапануем вам маршруты, якія вы зможаце самастойна зладзіць на выхадных.**

Адзін з іх – па даўгінаўскіх ваколіцах. Падчас яго вы на свае вочы пабачыце самы стары касцёл Вілейшчыны, даведаецеся, колькі спатрэбіцца рук, каб абняць адзін з найбольшых камянёў, паспрабуеце гэта зрабіць.

Маршрут ахоплівае вёску Касцяневічы, Вялікая Сэрвач, Даўгінава, Мільча, Вардамічы, Камена, Сцешыцы і Кастыкі.

Агульная адлегласць – 65 кіламетраў. На гэта пойдзе адзін дзень.

## У Касцяневіцкім касцёле хрысцілі польскіх паэтаў

Пачынаем завочнае падарожжа з вёскі Касцяневічы. Тут знаходзіцца самы стары касцёл Вілейшчыны. Ён датуецца 1662 годам. У ім хрысцілі вядомага класіка польскай літаратуры **Ігната Ходзьку**, польскага паэта-дэмакрата сябра **Тараса Шаўчэнкі** – **Эдварда Жалігоўскага**.

Едзем у Вялікую Сэрвач. Па ўспамінах мясцовых жыхароў, пры апошнім гаспадару **Юзафу Козелу-Паклеўскім** тут выраблялі сыры. У маёнтку працаваў майстар з Францыі.

Да нашых дзён на мясцовых могілках захавалася капліца-пахавальня роду Козелаў-Паклеўскіх, вінакурня і гамарня.

У вёсцы нарадзіліся ўдзельнікі паўстання **Кастуся Каліноўскага** – браты **Ян** і **Вікенцій Козелы-Паклеўскія**. Першы з іх быў паплечнікам Каліноўскага, меў мянушку Скала.

## "Даўгі гані!" – ад гэтых слоў пайшла назва вёскі

Накіроўваемся ў Даўгінава. Адна з гіпотэз паходжання назвы мястэчка звязаная з легендай пра чалавека, які павінны быў грошы, але не спяшаўся іх вяртаць. Калі даўжнік ішоў, то чалавек, які спаганяў грошы, выскокваў з-за дрэва і крычаў: "Даўгі гані!" Месца і пераняло назву.

Магчыма, усё больш проста – вёска доўгая, цягнецца ўздоўж дарогі. Так і атрымалася – Даўгінава.

Мястэчка праславіў ксёндз **Юзаф Львовіч**, актыўны ўдзельнік таварыства філарэтаў, за гэта яго пасадзілі за краты, пазбавілі настаўніцкіх правоў і саслалі на памежную тэрыторыю – спачатку ў Касцяневічы, пасля ў Даўгінава. Філаматы, якія вярталіся з ссылкі, прыязджалі да яго.

## Касцёл у Даўгінаве ўзвялічылі за грошы Зана

Адзін з філаматаў, **Тамаш Зан**, калі ўбачыў касцёл, быў засмучаны яго знешнім выглядам. Таму прапанаваў Юзафу Львовічу залатую табакерку, каб адбудаваў сапраўды велічны касцёл. Львовіч, у сваю чаргу, прапанаваў Зану злоты са словамі: "Не маеш кавалка сваёй зямлі. Вось даю табе злоты з пераканнанем, што купіш на яго вёску".

Так і разышлося па людзях: ксёндз адбудаваў касцёл за табакерку Зана, а Зан купіў вёску за злоты Львовіча.

У 1886 годзе Даўгінава было цэнтрам воласці. Таму мястэчка магло мець прыватную ўласнасць і мела права на самакіраванне.

У Даўгінаве існавала суконная фабрыка. Вырабы прадавалі за мяжу.

## Склеп з хадамі знаходзіцца ў Вардамічах

Існуе легенда, калі **Стэфан Баторы**, трапіўшы на Вілейшчыну, загадаў камусьці: "Маўчаць!". Па-польску гэта гучала "мільч". Адтуль і пайшла назва вёскі Мільча.

Існуюць меркаванні, што на месцы капліц раней знаходзілася вёска. Але яна "вымерла" ад чумы – вёску перанеслі на поўнач. У памяць пра тыя падзеі там паставілі капліцу.

За капліčкай у Вардамічах знаходзіцца, на першы погляд, непрыкметная хата. А пад ёй – велізарны цагельны склеп, ён мае шмат хадоў. Нават гаспадар не ведае, куды яны могуць прывесці.

У той самай хаце нарадзілася **Марыя Вітkоўская**. У Вардамічах яе называюць сваёй першай святой.

## Камень-звон знаходзіцца ў Камене

Хочаце паглядзець на адзін з вялікіх валуноў у раёне? Тады вам у Камену! На валуне змешчаная вялікая крыжа. Вышыня яго каля двух метраў, шырыня амаль 11.

Даследчыкі сцвярджаюць, што камень трапіў сюды з ледавіком тысячы гадоў таму з тэрыторыі сучаснай Фінляндыі. Знайшоў яго **Канстанцін Тышкевіч** у канцы 19 стагоддзя падчас навуковай экспедыцыі.

Валун яшчэ называюць камень-звон, бо мае такую форму. Мяркуюць, што гэта была язычніцкая святыня. Аб гэтым сведчаць два штучныя паглыбленні на яго вяршыні. На роўнай паверхні высечаны шасціканцовы крыж, напісаны словы кірыліцай, цяпер іх не разабраць.

## Жонка словам ператварыла мужа ў камень

Існуе паданне, што ў Камене жыла сям'я. На вялікае свята муж пайшоў араць. Жонка прасіла не рабіць гэтага. Працаваць у свята – грэх. Але не паслухаўся. Тады яна са злосці крыкнула: "Каб цябе ў камень ператварыла!" Пачуў гэта мужык – і стаў каменем.

Апошні пункт у нашым падарожжы – вёска Кастыкі. Тут ёсць курганны могільнік, які датуецца 11-12 стагоддзем. Археолаг **Міхась Чарняўскі** ў вёсцы знайшоў бронзавую сякеру.

Больш падрабязную карту можна знайсці на сайце RH.BY.



**Воля ТРУБАЧ.**
E-mail: ydaroze@mail.ru.

**Даведка "РГ".** Філаматы – нелегальнае таварыства віленскіх студэнтаў у 1817-1823 гадах, якое ставіла перад сабой культурна-асветніцкія задачы, але пасутова замяняла іх на палітычныя. Змагаліся за незалежнасць народаў, знішчэнне прыгоннага права. У складзе філаматаў было арганізаванае таварыства філарэтаў.

ФУТБОЛ

# "Маладзечна ДЮСШ-4": выканкам аплаціў унёсак і новую форму

МАЛАДЗЕЧНА

**Гульні другой лігі чэмпіянату Беларусі па футболе распачнуцца для каманды з Маладзечна 2 мая выязной гульнёй з камандай Асіповічаў.**

Але пытанні пра склад каманды, пра колеры формы, пра кошт білетаў на стадыён застаюцца адкрытымі.

"Рэгіянальная газета" звязалася з намеснікам начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Мікалаем Шрымфам**, дырэктарам стадыёна **Аляксеем Язневічам** і галоўным трэнерам **Аляксандрам Гармазой**, каб задаць ім пытанні, якія знаходзяцца ў іх кампетэнцыі.

Мікалай Шрымф:

– На сённяшні дзень мы заплацілі ўступны ўнёсак каманды ў другую лігу. Да таго ж мы аплацілі новую форму гульцам. Цяпер вырашаецца пытанне з продажам піва на стадыёне падчас матча.

Аляксей Язневіч:

– Білеты на футбол будуць каштаваць так: 20 тысяч – дарослы білет і 10 тысяч – дзіцячы.

Піва на стадыёне, кажа Аляксей Язневіч, будуць прадаваць у тым выпадку, калі знойдзецца прадпрымальнік, гатовы выставіць на стадыёне свой пункт гандлю.

– Таму мы актыўна запрашаем да супрацоўніцтва з намі.

Аляксандр Гармаза:

– Форма каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" застанецца зялёнага колеру.

Што датычыцца складу каманды, то папярэдне ён такі:

1. **Аляксандр Альховік, 33 гады, абаронца**
2. **Ілля Ануфрыеў, 21 год, паўабаронца**
3. **Юры Бугай, 21 год, абаронца**
4. **Аляксей Вышынскі, 19 гадоў, паўабаронца**
5. **Дзмітры Вышынскі, 40 гадоў, абаронца**
6. **Сяргей Галюк, 19 гадоў, паўабаронца**
7. **Антон Галгоўскі, 18 гадоў, варатар**
8. **Арцём Грыб, 20 гадоў, абаронца**
9. **Сяргей Дараховіч, 35 гадоў, паўабаронца**
10. **Дзяніс Дурэйка, 20 гадоў, абаронца**
11. **Цімафей Ігруша, 18 гадоў, паўабаронца**
12. **Сяргей Космач, 24 гады, нападаючы**
13. **Дзмітры Касцюк, 28 гадоў, паўабаронца**
14. **Уладзіслаў Краскоўскі, 19 гадоў, абаронца**
15. **Сяргей Лавор, 21 год, паўабаронца**
16. **Віталь Макрыцкі, 35 гадоў, паўабаронца**
17. **Юры Малько, 25 гадоў, паўабаронца**
18. **Аляксандр Мялюк, 41 год, варатар**
19. **Павел Майсяёнак, 22 гады, нападаючы**
20. **Прохар Новікаў, 23 гады, абаронца**
21. **Аляксандр Парфёнаў, 20 гадоў, нападаючы**
22. **Павел Суман, 27 гадоў, абаронца**
23. **Ігар Талькоўскі, 22 гады, нападаючы**
24. **Мікалай Татун, 34 гады, паўабаронца**
25. **Уладзіслаў Фядотаў, 18 гадоў, паўабаронца**
26. **Максім Чабрыцкі, 30 гадоў, нападаючы**
27. **Антон Шчэрба, 25 гадоў, варатар**
28. **Юры Яначкін, 20 гадоў, паўабаронца**

Сяргей Дараховіч заяўлены як гуляючы трэнер. Самы малады гулец каманды – Уладзіслаў Фядотаў, яму 18 гадоў. Самаму сталаму гульцу каманды, варатару Аляксандру Мелюку, – 41 год.

**Наталля ТУР.**

## Абласное дэрбі завяршылася нічыёй

СМАРГОНЬ

– Гэта была гульня нявыкарыстаных магчымасцяў, – так ацаніў матч прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч.**

У першым тайме была вострая гульня. Каманды стварылі шмат небяспечных момантаў.

Вывеў смаргонцаў наперад на 33-й хвіліне **Аляксандр Талканіца**, якога абаронцы гаспадароў пакінулі без нагляду ў сваёй штрафной. Пас яму аддаў **Уладзімір Казко.**

Але праз чатыры хвіліны гаспадары аднавілі раўнавагу ў матчы. Неўзабаве гледачы ўбачылі яшчэ два галы: па адным ў вароты кожнай каманды. Але арбітр не залічыў ніводзін з-за афсайду.

Пад канец матча гаспадары "падселі" фізічна, смаргонцы маглі дацiснуць саперніка. Стварылі тры-чатыры небяспечныя моманты, але рэалізаваць іх не здолелі.

– У выніку хутчэй страцілі два ачкі, чым зарабілі адно, – робіць выснову Уладзімір Амбрасевіч. – Вельмі надзейна правёў матч дасведчаны варатар "Слоніма" **Арцём Гамялько.** Дзякуючы яму гаспадары не прапусцілі больш.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА


Фота Галіны СІНІЦЫ.

Цяплу ў Маладзечне ўзрадаваліся аматары актыўнага адпачынку. З'явіліся людзі са скейтбордамі, роварамі.

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**"Рэгіянальная газета" зладзіла вечарыну ў гонар 20-годдзя ў Вілейцы (фота)**

Ну, Андрэй Дударчык, проста Апалон. Вельмі прыгожы мужчына!!! *Віляйчанка.*

Паважаны Аляксандр Барысавіч! Паважаная рэдакцыя! Дарагія дзяўчаткі! Ад усяго сэрца віншую Вас усіх са святам 20-годдзя! Ваша газета такая ж шчырая, як Вашы ўсмешкі, такая ж яркая, маладая і аператыўная, як Вы самі. Ганаруся, што многіх з Вас ведаю асабіста. Радуюся за Ваш дружны калектыў. Жадаю поспехаў, здароўя Вам і Вашым сем'ям, новых цікавых тэм і новых удзячных чытачоў! Што ж болей трэба для шчасця? *Наталля Сянько.*

**Рэжысёр фільма пра Агінскага: "Мы адстаялі, каб была і беларускамоўная версія"**

На маю думку, рускамоўную версію трэба захаваць для паказу гледачам з СНД (былога Савецкага Саюза). У Беларусі варта прынцыпова паказваць беларускую. Эфект першаўспрымання шмат значыць. *Vitaut Arabello.*

**Пайшоў з жыцця Пётр Цыгалка**

Глыбокі жаль у сэрцы. Так нечакана смерць забрала ад нас нашага земляка, светлага чалавека, які гуртаваў вакол сябе сваіх землякоў, блізкіх і далёкіх, які быў неабыякавы да сваёй зямлі і роднага краю. Ён быў гатовы дапамагчы ва ўсякай справе, быў небезуважны да чужой праблемы і патрэбы. Вечная памяць… *Ядвіга і Ларыса Кур'яновічы.*

**Археолаг Яўген Уласавец: "На Ашмяншчыне пахаваныя апошнія язычнікі Еўропы"**

Прыемна пачытаць артыкул пра чалавека, якога ведаеш) *Аляксандр.*

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | 9 | | 3 | | | |
| 6 | | | | | 7 | | 8 | |
| | | 9 | | 4 | | | 5 | |
| 8 | | 2 | | 9 | | | | |
| 4 | | | | | | | | 1 |
| | | | | 5 | | 7 | | 2 |
| | 3 | | | 8 | | 2 | | |
| | 9 | | 6 | | | | | 8 |
| | | | 4 | | 2 | | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
1 мая – у 12:30
2, 3 мая – у 12:00 Цана білета: 25 000 рублёў
1, 2, 3 мая – у 15:30 (12 000 рублёў)

Анімацыя, фэнтэзі "**Дом**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
1 мая – у 14:30
2 мая – у 14:00
3 мая – у 16:50
7 мая – у 17:20 Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, фантастыка "**Поўнае пераўтварэнне**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5 мая – у 17:00 Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, фэнтэзі "**Мсціўцы: Эра Альтрона**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
1, 2 мая – у 19:00
2 мая – у 16:00
3 мая – у 14:00
3, 5 мая – у 21:00
4, 6 мая – у 18:00 Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, фантастыка, трылер "**Запрашаем у рай**", (ЗША, 2014, з 16 год)
4 мая – у 21:00 Цана білета: 45 000 рублёў

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія…**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
1 мая – у 16:30 (цана білета: 55 000 рублёў)
1, 2 мая – у 22:00 (60 000 рублёў)
3, 5 мая – у 18:45 (55 000 рублёў)
6 мая – у 21:00 (55 000 рублёў)

Прэм'ера! Ваенная драма "**Дарога на Берлін**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7 мая – у 19:30 Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Адной левай**" (Расія, 2015, з 16 год)
7 мая – у 21:30 Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)

Анімацыя, сямейны "**Тор. Легенда вікінгаў**" (Ірландыя, Германія, 2011, без узроставых абмежаванняў)
1, 3 мая – у 17:30
2 мая – у 16:30 Цана білета: 20 000 рублёў

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**", (Беларусь, 2015, з 16 год)
2, 7 мая – у 18:30
3, 6 мая – у 21:30
5 мая – в 19:00 Цана білета: 3 000 рублёў

Баявік, трылер "**Джон Уік**" (ЗША, Канада, 2014, з 16 год)
3 мая – у 21:30 Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Лета. Аднакласнікі. Каханне**" (ЗША, 2011, з 16 год)
1 мая – у 19:30
2 мая – у 21:00
4 мая – у 21:30 Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Салодкае развітанне Веры**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2 мая – у 18:30 Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Абяцанне**" (Францыя, Бельгія, 2013, з 16 год)
1 мая – у 21:30
3 мая – у 19:30 Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "Кухня ў Парыжы" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 мая – у 21:30
6 мая – у 19:30
7 мая – у 21:00 Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма "**Вядзьмарка**" (Расія, 2006, з 16 год)
5 мая – у 19:00
6 мая – у 21:30
7 мая – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Бландзінка ў эфіры**" (ЗША, з 16 год)
1, 6 мая – у 17:30
2 мая – у 17:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік, трылер "**Рэйд 2**" (Інданезія, з 18 год)
1, 3, 6 мая – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Тарзан**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
2 мая – у 15:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Меладрама "**Салодкае развітанне Веры**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 мая – у 19:30
3 мая – у 17:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Тор: Легенда вікінгаў**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
3 мая – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, баявік "**Мсціўцы: Эра Альтрона**" (3D, ЗША, з 16 год)
1, 6 мая – у 18:00
2 мая – у 20:30
3 мая – у 20:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія**" (3D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1, 6 мая – у 21:00
2 мая – у 16:00
3 мая – у 18:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч…**" (музычна-драматычны спектакль, прысвячаецца 70-годдзю савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне)
7 мая, чацвер, – у 15:00

"**Бывай, канферансье!**" (спектакль-канцэрт), *Рыгор Горын*
12 мая, аўторак, – 19:00

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), *Ніл Сайман*
14 мая, чацвер, – у 19:00

"**Маленькі свет**" (жорсткая меладрама), *Алена Папова*
19 мая, аўторак, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
21 мая, чацвер, – у 19:00

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), Марсэль Берк'е-Мерынье, Анатоль Курбскі
26 мая, аўторак, – у 19.00

"**Псіхааналітык для псіхааналітыка**" (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
28 мая, чацвер, – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**
*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by http://theatre-modt.by

УНП 600066659

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Прывітанне для малпачкі**" (камедыя ў 2-х дзеях, бел.), *Р. Осцер*
3 мая – у 12:00

**ЗАКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА**
**ПРЭМ'ЕРА. "Кот у ботах"** (казка-прыгода, рус.), *Г. Уладычына*
10 мая – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27.**

УНП 600136804

## ГАРАСКОП (1-7 МАЯ)


**Авен.** Перш чым пускацца ў рызыкоўныя прадпрыемствы, добра падумайце. Ад вашай насцярожанасці і кемлівасці будзе шмат што залежаць у будучыні. Лепш лішні раз усё праверце.


**Цялец.** Наступіць час цікавых сустрэч, прыемных зносін, маленькіх радасцяў, якія робяць жыццё яркім.


**Блізняты.** Трымайцеся далей ад авантур, звязаных з лёгкім ўзбагачэннем і азартнымі гульнямі. Не распыляйцеся па дробязях, рабіце тое, да чаго ляжыць ваша душа.


**Рак.** Поспех літаральна зваліцца вам на галаву, прычым не толькі ў сферы кар'еры, але і ў шмат якіх іншых – без увагі не застанецца і ўласнае жыццё.


**Леў.** Ваша папулярнасць павышаецца не толькі на рабоце, але і далёка за яе межамі. Нечакана з'явяцца даўнія знаёмыя, пра якіх вы даўно ўжо і забыліся. Магчыма, яны чакаюць ад вас нейкай паслугі, але і самі змогуць дапамагчы. Гэта добры знак.


**Дзева.** Вам у галаву прыйдзе мора ідэй, якія захочацца тут жа ўвасобіць у жыццё. Але не спяшайцеся і нічога не рабіце на скорую руку.


**Шалі.** У вас няма ніякіх падстаў скардзіцца – усё задуманае так ці інакш увасабляецца ў жыццё. Магчыма сустрэча з чалавекам, які навучыць вас пераадольваць шмат якія жыццёвыя нягоды.


**Скарпіён.** Каб пазбегнуць стрэсаў, не губляйце душэўнай раўнавагі. І жывіце па формуле: "Спачатку падумай, а потым зрабі"!


**Стралец.** Не сумнявайцеся ў сваіх сілах, не бойцеся цяжкасцей, і вы тады зможаце горы зрушыць.


**Казярог.** Не рабіце неабдуманых учынкаў, старайцеся прадугледзець магчымыя наступствы кожнага кроку.


**Вадалей.** Вы прыцягнеце да сябе ўвагу супрацьлеглага полу, таму сумаваць не прыйдзецца. Прыглядзьцеся, магчыма, вы адшукаеце родную душу. І ведайце, што змены ў асабістым жыцці не адбудуцца самі па сабе, каб усё змянілася да лепшага, прыкладзіце намаганні.


**Рыбы.** Зоркі прарочаць вам адкрыццё ў сабе дызайнерскіх здольнасцей, таму рабіце рамонты, будуйцеся, абуладкоўвайце сваё гняздо.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155
9 771991 715006



**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**2 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +7 / +16 | | +7 / +14 | | +6 / +13 | | +6 / +11 | |
| | 736 | ↖ 4 | 736 | → 4 | 739 | → 4 | 737 | ↖ 4 |
| Вільня | +7 / +16 | | +6 / +14 | | +6 / +14 | | +5 / +12 | |
| | 743 | ↑ 5 | 744 | → 7 | 747 | → 4 | 744 | ↑ 3 |

Тэмпература паветра. Воблачнасць, ападкі. Ціск (мм рт. сл.). Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 5.32
Захад 20.47
Даўжыня дня 15.15

Усход 18.53
Захад 5.06
Квадра 3




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература –2,7 °С у 2007 годзе
Максімальная тэмпература +27,4 °С у 1977 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 24,9 мм у 1977 годзе
Назіранні 37 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- На што гатовы аматар стратэгічнай гульні, колькі траціць грошай на сваё захапленне, як знаходзіць час і на вучобу, і на каханне, і на захапленне.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці мяняе ўзаемаадносіны штамп у пашпарце?



**Святлана Шведава, менеджар, Маладзечна:**
– Па сутнасці, штамп у пашпарце нічога не мяняе. Галоўнае, каб была павага адно да аднаго. Але зарэгістраваны шлюб лепш, калі ўзнікае нейкае пытанне ў дакументацыі.



**Наталля Адзярыха, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Лепш грамадзянскі шлюб. Канешне, кожная дзяўчына марыць пра шыкоўнае вяселле, белую сукенку. Аднак гэта таго не варта. Для пашпарта гэта толькі сапсаваная старонка. Большасць пар разводзяцца. Навошта псаваць жыццё сабе і іншым. Лепш жыць у сваё задавальненне.



**Ганна Рамановіч, памочнік доктара, Маладзечна:**
– Лепш шлюб зарэгістраваны. Пасля так званага штампа людзі больш адказныя за свае адносіны. А на грамадзянскі шлюб дзяўчаты пагаджаюцца, таму што ў наш час прапановы рукі і сэрца не дачакаешся.



**Андрэй Маркевіч, мастак, Вілейка:**
– Жыць можна і ў незарэгістраваных адносінах. Для таго, каб зарэгістраваць шлюб, трэба важкая прычына, напрыклад, дзеці.



**Дзмітры Сакалоўскі, зваршчык, Маладзечна:**
– Лепш шлюб зарэгістраваны. Так і мужчына, і жанчына адчуваюць сябе больш спакойна. Бо штамп у пашпарце не мяняе ўзаемаадносінаў. Але калі ўсё добра, то няма розніцы са штампам альбо без.



**Любоў Рынкевіч, настаўніца, Валожын:**
– Шлюб павінны быць зарэгістраваны, малядыя павінны павянчацца ў царкве. Штамп у пашпарце мяняе ўсё жыццё. Ты нясеш адказнасць не толькі за сябе, але і за свайго абранага, за будучыню. На грамадзянскі шлюб ідуць, таму што такія адносіны не патрабуюць адказнасці, жывы сабе спакойна і ўсё.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 18 (1044) 1.05.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 574. Падпісана ў друк у 9.00 30.04.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.